# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 12 (2258) 19 сакавіка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).





**Мінчане ўжо звыкліся з тым, што былая плошча Леніна, на якой шумелі дэманстрацыі адданасці ідэалам камунізму, стаўшы плошчай Незалежнасці, нагадвае нечым лонданскі Гайд-парк. Калісьці, і не так даўно, тут надрываўся стогалосы хор, на ўвесь голас заяўляючы, што ў партыі і народа — адны мэты. Іншых думак плошча не чула. Сёння ж сюды прыходзяць не толькі стройнымі калонамі і гавораць, хто што хоча ці каму што набалела. Заканамернасць з'яўлення дэманстрантаў, пікетчыкаў, забастоўшчыкаў на цэнтральнай плошчы сталіцы залежыць ад сацыяльных і палітычных абставін, карацей, — ад нашага жыцця. Але адна заканамернасць акрэслілася выразна: людзі ідуць на плошчу Незалежнасці ў дні адкрыцця і работы сесій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Ідуць, бо хочуць, каб народныя дэпутаты пачулі, як жыве і чаго прагне народ.**

**НА ЗДЫМКУ: 12 сакавіка на плошчу Незалежнасці прыбылі прадстаўнікі шахцёраў Салігорска: у іх свае патрабаванні да ўрада і парламента.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

*ЯК ІДЗЕ РАССАКРЭЧВАННЕ БЕЛАРУСКІХ АРХІВАЎ*

# ТАЙНАЕ СТАНОВІЦЦА ЯЎНЫМ

**Толькі архіўныя дакументы непрадузята і аб'ектыўна могуць расказаць цяперашняму і будучым пакаленням пра народ і яго гісторыю, пра гераічнае і ганебнае, пра патрыётаў і здраднікаў. Адной з адзнак так званага перабудовачнага часу стала даступнасць архіваў. Дакументы, да якіх, здавалася, ніколі не дакранецца рука простага смертнага, сталі даступныя і навукоўцу, і пісьменніку, і проста чалавеку, які мае жаданне ці патрэбу нешта для сябе высветліць. Ці азначае гэта, што ніякіх сакрэтаў больш не існуе! Бясспрэчна, не. Пакуль ёсць дзяржава, існуюць і дзяржаўныя тайны. І тым не менш архівы адкрываюцца. Рассакрэчванне архіўных дакументаў пачалося ўжо некалькі гадоў назад, складзены кароткі вопіс з анатацыяй апрацаваных матэрыялаў і адрасы, дзе яны знаходзяцца. Пасля знаёмства з гэтым своеасаблівым каталогам адбылася гутарка карэспандэнта «Голасу Радзімы» Дзіяны ЧАРКАСАВАЙ з Аляксандрам МІХАЛЬЧАНКАМ, начальнікам Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

— Аляксандр Мікалаевіч, здаецца, за два гады, што прайшлі з часу вашага інтэрв'ю «Голасу Радзімы», у грамадстве адбыліся такія зрухі, што мы спакойна гаворым аб даступнасці дакументаў, якія яшчэ нядаўнна захоўваліся за сямю пячацямі. Але мне падалося, што працэс рассакрэчвання ідзе вельмі-вельмі марудна. Ці не зацягнецца работа на дзесяцігоддзі?

— Не на дзесяцігоддзі, але, напэўна, надоўга. Ну, проста ўявіце сабе: ляжаць перад вамі тоны дакументаў, якія раней былі на рэжыме абмежаванага доступу. Кожны трэба прачытаць (а яны бываюць і

**(Працяг на 3-й стар.).**

*ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА*

# «МЫ НЕ МОЖАМ, ЯК І ІНШЫЯ НАРОДЫ, КАРЫСТАЦЦА НАЦЫЯНАЛІЗМАМ»

Пра спадара Антона Шукелойця нездарма кажуць, што ён душа нью-йоркскіх беларусаў. І ў гэтым, напэўна, ёсць вялікі сэнс. Старшыня Беларуска-амерыканскага Задзіночання ў Амерыцы зусім не казённы чалавек. А па характару ён проста ідэальны ўзор беларуса. Яго глыбокая ўнутраная культура і інтэлігентнасць, талерантнасць, даверлівасць і добразычлівасць даюць магчымасць спадару Шукелойцю знаходзіць агульную мову з людзьмі самых розных поглядаў і перакананняў. Напэўна, ён мог бы быць выдатным дыпламатам або неардынарным вучоным-гуманітарыем, які шмат чаго зрабіў бы да гонару сваёй Бацькаўшчыны. Але лёс распарадзіўся інакш. Адарваны ад Радзімы, ён усе сілы аддаў таму, каб беларуская эміграцыя ў Амерыцы не растварылася ў шматнацыянальным катле Злучаных Штатаў, каб не згубіла сваёй мовы і сваёй нацыянальнай памяці.

Значную частку жыцця спадар Шукелойць пражыў у ЗША. Прыстасаваўся да тутэйшага клімату, звычаяў і законаў. Аднойчы ўвечары на яго напала кампанія: збілі да непрытомнасці, забралі грошы... Калі паліцэйскія арыштавалі злодзеяў і адбыўся суд, спадар Шукелойць велікадушна заявіў, што даруе гэтым маладым людзям. І аргументаваў так: «Каб яны мелі такіх бацькоў, як у мяне, такую ж адукацыю, то ніколі не паднялі б руку на чалавека. Я іх шкадую...»

Учынак яго быў не ўсім зразумелы. Але ж у ім — увесь Шукелойць з яго верай у людзей і з перакананнем у сілу дабра.

**— Спадар Шукелойць, для самага шырокага чытача ў Беларусі наша эміграцыя — белая пляма ў свядомасці. Многія не ведаюць і не разумеюць, чаму выехалі з Радзімы іх суайчыннікі, альбо разумеюць неяк аднабока. Я спадзяюся, што наша з вамі гутарка ў нейкай ступені запоўніць гэты інфармацыйны вакуум. Але для пачатку — пра сваю сям'ю.**

— Родам я з Ашмяны, з вёскі Якелеўшчына. Назва яе паходзіць ад імя садоўніка графа Чапскага — Якеля. Граф з невядомых прычынаў перавёў садоўніка ў іншае месца. А туды пасяліў маіх дзядоў — траіх братоў-музыкантаў. Адзін з іх на скрыпцы граў, а яго браты — на цымбалах і басэтлі. Бацька ж зусім іншы быў, не любіў мастакоў, музыкантаў — яго душа хілілася да бізнэсу. Пасля японскай вайны, як выйшаў з войска, асеў у Петраградзе. І там ён з суседам арганізаваў мясны бізнэс. Яны мелі некалькі крамак. Бацька дабыў там да 1914 года, пакуль не змабілізавалі ў армію. А пасля рэвалюцыі вярнуліся да дзеда на Ашмяну. Бацька зрабіўся купцом. Ён купляў некалькі гектараў лесу, высякаў яго і гандляваў. Такі во быў прадпрымальны чалавек, працавіты. Дарэчы, бацька на свае сродкі пабудаваў у Ашмяне ветэрынарны шпіталь. А маці мая з роду Пецюкевічаў, што паходзіць з Браслаўскага павету.



У дзедавай хаце гаварылі мы толькі па-беларуску. Моцная была беларуская сям'я. Мае ўсе продкі пахаваны на тых самых могілках, дзе і Францішак Багушэвіч ляжыць. Бацька хацеў, каб я быў адукаваным чалавекам, аддаў мяне ў гімназію.

**— У Ашмянах!**

— Так. У гімназіі ўжо ў 4-й клясе вучні 14—15 гадоў былі аб'ектам зацікаўлення палітычных груповак. Сярод настаўнікаў былі сацыялісты, камуністы, ліберaлы, польскія нацыяналісты. Кожны з іх падсоўваў вучням адпаведную літаратуру. Польскі сацыялізм, ён быў такі, як байка... Там шмат гаварылася пра справядлівасць, пра

**(Працяг на 7-й стар.).**

ПРАГРАМА АПАЗІЦЫІ

## ШТО ДУМАЮЦЬ АКАДЭМІКІ

Вучоны савет Інстытута эканомікі Акадэміі навук Беларусі разгледзеў канцэпцыю эканамічнай рэформы, распрацаваную парламенцкай апазіцыяй.

Прадстаўнікі апазіцыі ў сваіх дакладах асабліва падкрэслілі тыя моманты, якія адрозніваюць канцэпцыю ад іншых эканамічных планаў па вываду рэспублікі з крызісу. А менавіта: у ёй прадугледжваецца забарона на ўмяшанне ўрада ў справы камерцыйных структур, замацоўваецца права на зямлю за кожным грамадзянінам Беларусі. а не толькі за сялянамі і. нарэшце, сцвярджаецца, што можна ўвайсці ў рынак яшчэ да завяршэння працэсаў прыватызацыі.

З боку членаў вучонага савета гучала крытыка некаторых палажэнняў канцэпцыі — напрыклад, яе структуры і механізмаў рэалізацыі, адсутнасці распрацовак па навукова-тэхнічнаму прагрэсу.

— Я лічу,— заявіў пазней прэм'ер «ценявога кабінета» Уладзімір Заблоцкі, дарэчы, намеснік старшыні парламенцкай камісіі па навуцы і тэхніцы.— што гэта дыскусія была патрэбна. Мы даведаліся, што думае наша акадэмічная навука.

ЛІСТ У САВЕТ МІНІСТРАЎ

## ЦІ ЗАСТАНЕЦЦА ПРЭСА?

Заклік прыняць тэрміновыя меры. каб аберагчы прэсу ад самавольства ведамстваў, змяшчаецца ў лісце, які кіраўнікі Саюза журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі Беларусі накіравалі Старшыні Савета Міністраў Вячаславу Кебічу. Прычынай для гэтага паслужыла прапанова Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі аб трохразовым павелічэнні тарыфаў на дастаўку, экспедзіраванне і распаўсюджанне перыядычных выданняў. Указваючы на недапушчальнасць і неправамоцнасць аднабаковага змянення заключаных напярэдадні падпісной кампаніі дагавароў, на падставе якіх вызначалася цана выданняў, кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі падкрэсліваюць, што такі крок міністэрства па сутнасці робіць безнадзейным і без таго адчайнае фінансавае становішча рэдакцыйных калектываў і ставіць над пагрозу само існаванне газет і часопісаў.

ДА СТАЛА ГАРАДЖАН



Першую зялёную прадукцыю — агуркі, цыбулю, шпінат, пятрушку — адправілі ў гандлёвую сетку працаўнікі саўгаса — цяплічнага камбіната «Бярэсце».
Сёння ажыятажнага попыту на гэты тавар, як раней, няма, таму што кошт яго павялічыўся ў 10—15 разоў. Пры гэтым прыбытак саўгас мае мінімальны, бо цэны на газ, плёнку, метал і інш.ае выраслі ў 40 — 100 разоў.
Але нягледзячы на складанасці, сельчане запланавалі адправіць у магазіны 300 тон ранніх гароднінных культур.
НА ЗДЫМКУ: брыгадзір В. ВАКУЛІНА збірае першы ўраджай агуркоў.

ГАНДЛЁВЫЯ ШЛЯХІ

## ВЫХАД ДА МОРА

Брэст, як вядома, стаіць у міжрэччы Заходняга Буга і Мухаўца. Буг упадае у Віслу, Вісла — у Балтыйскае мора. Шмат вякоў назад, трэба думаць, гэтая водная артэрыя служыла гандлю. Зусім магчыма, што свабодная эканамічная зона, якая ствараецца ў Брэсце, верне міжнароднай эканоміцы гэты гандлёвы шлях. Цяпер сур'ёзна абмяркоўваецца праект стварэння ў Брэсце грузавога рачнога порта, судны з якога будуць ісці да Балтыйскага мора.

АФІЦЫЙНА

## ПАРТЫЙНЫЯ ГРОШЫ

Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным банкам і Знешэканомбанкам і пры ўдзеле былога Кіраўніцтва спраў ЦК КПБ старанна вывучылі пытанне аб маёмасці і грашовых сродках Кампартыі Беларусі ў іншых рэспубліках і за мяжой.

Паводле наяўных даных у Нацыянальным банку, Знешэканомбанку і былым Кіраўніцтве спраў ЦК КПБ, грашовых сродкаў і маёмасці партыі ў іншых рэспубліках былога Савецкага Саюза і за рубяжом няма.

ЯЎРЭЙСКАЯ ГАЗЕТА

## «АВІЎ» — ЗНАЧЫЦЬ ВЯСНА

Выйшаў першы нумар рэспубліканскай яўрэйскай газеты «Авіў» («Вясна»). Яна выдаецца на рускай мове і адрасавана людзям розных нацыянальнасцей, якія цікавяцца яўрэйскай культурай. Газета публікуе інтэрв'ю з паўнамоцным прадстаўніком яўрэйскага агенцтва ў Рэспубліцы Беларусь Довам Шарфштэйнам.

Каменціруючы першы нумар газеты, прэзідэнт аб'яднання яўрэйскіх арганізацый і абшчын Рэспублікі Беларусь лаўрэат Ленінскай прэміі архітэктар Леанід Левін гаворыць: «Хацелася б, каб наша газета была цікавая ўсім — веруючым і атэістам, прыхільнікам тых ці іншых партый ці беспартыйным, тым, хто вырашыў назаўсёды звязаць свой лёс з Беларуссю ці выехаць за рубеж. Чалавек вольны ў сваім выбары, і газета, спадзяюся, будзе па меры сваіх сіл і магчымасцей забяспечваць чытача праўдзівай інфармацыяй, змагацца з антысеміцкімі недарэчнасцямі, якіх, на жаль, хапае на ўсіх узроўнях».

*«Мы з'яўляемся сведкамі таго, што сённяшнюю нарастаючую нестабільнасць хочуць выкарыстаць у сваіх інтарэсах пэўныя дзеячы і рухі. Яны спрабуюць пераканаць грамадства, што ў распадзе эканомікі, падзенні жыццёвага ўзроўню, іншых бедах вінаваты менавіта Вярхоўны Савет і што дастаткова распусціць цяперашні парламент, абраць новы, як справы пойдуць на лад. Для гэтага выкарыстоўваецца і той бясспрэчны факт, што работу Вярхоўнага Савета і яго структур сапраўды нельга лічыць ідэальнай.*

*Але ж наш парламент ідзе непратораным шляхам, па калдобінах ды выбоінах, а таму, натуральна, не застрахаваны ад памылак. Іх можна асэнсаваць, выправіць, калі ёсць галоўнае — адказнасць, а я перакананы, яна ёсць. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пацвердзіў, што ён здольны на асэнсаваныя, збалансаваныя рашэнні, здольны рабіць і, я перакананы, зробіць усё неабходнае для рэфармавання эканомікі, форм уласнасці, механізма кіравання. Таму ў такіх абставінах рэферэндум з мэтай разгону існуючых структур улады толькі загубіць пачатае, не дасць узмацніцца таму станоўчаму, што напрацавана. Рэферэндум замарудзіць ход пераўтварэнняў у самы адказны момант. Больш таго, можа наступіць сапраўдны параліч улады, і згубіцца кантроль над сітуацыяй. Гэта можа абярнуцца неразбярыхай і яшчэ большай безгаспадарчасцю, нават абвалам у эканоміцы, расколам грамадства.*

*(З выступлення Станіслава ШУШКЕВІЧА на адкрыцці сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 11 сакавіка 1992 года).*

СМЕЛЫ АМЕРЫКАНЕЦ

## БАКМАН НАМ ДАПАМОЖА

«Стабільнасць становішча, высокая культура насельніцтва і багатыя вытворчыя традыцыі!» — так вядомы амерыканскі прадпрымальнік Ірвінг Бакман растлумачыў свой выбар Беларусі ў якасці дзелавога партнёра.

Уладальнік буйной страхавой кампаніі і нацыянальны старшыня Міжнароднага даследчага цэнтра ў Кембрыджы (штат Масачусетс), які прыехаў у Мінск па запрашэнню таварыства з абмежаванай адказнасцю «Оідмэст», прывёз многа цікавых прапаноў. Першай будзе рэалізавана ідэя стварэння сумеснага прадпрыемства па будаўніцтву гравійных і грунтавых дарог.

Сярод іншых прапаноў, дэталі якіх цяпер абмяркоўваюцца, арганізацыя Беларуска-Амерыканскай страхавой кампаніі, будаўніцтва сучаснай стаматалагічнай клінікі і поўнасцю абсталяванай бальніцы, а таксама ўзвядзенне прадпрыемства па выпуску будаўнічых матэрыялаў і канструкцый, якое дазволіць узводзіць дамы не горшыя, чым у ЗША.

РАДЫЯЦЫЙНЫ МАГІЛЬНІК

## АДПАВЯДАЕ СУСВЕТНЫМ СТАНДАРТАМ

Як паведаміў галоўны спецыяліст Дзяржаўнага камітэта «Чарнобыль» Рамуальд Шатэрнік, адзіны магільнік для захавання біялагічных радыеактыўных адходаў у Беларусі размешчаны каля вёскі Хаткі Нараўлянскага раёна. Толькі там пахавана і захоўваецца цяпер усё мяса, якое не «вытрымала» спецкантролю на мясакамбінатах рэспублікі. Напрыклад, у студзені—лютым гэтага года ў Хатках пахавана 400 тон мяса. За першае паўгоддзе ў магільнік будзе перавезена яшчэ 920 тон «брудных» туш. Але чуткі пра тое, што радыяцыя пранікае ў сцёкавыя воды ці выходзіць на паверхню, не маюць ніякіх падстаў. Праект магільніка адпавядае сусветным патрабаванням.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ ЧАРНОБЫЛЯ

150 дзяцей чарнобыльскай зоны ва ўзросце ад 6 да 14 гадоў паўтара месяца будуць папраўляць сваё здароўе ў Гомельскім абласным дзіцячым санаторыі, што знаходзіцца ў вёсцы Шарпілаўка. Санаторый аснашчаны сучаснай айчыннай і замежнай медыцынскай апаратурай, для дзетвары арганізавана ўзмоцненае шасціразовае харчаванне, дзейнічае школа.

Нядаўна тут пабывала японская дэлегацыя, члены якой прапанавалі цікавую ідэю аб стварэнні на яго базе сумеснага беларуска-японскага лячэбна-дыягнастычнага цэнтра. Вялікі клопат аб гэтай установе праяўляюць і міжнародныя дабрачынныя арганізацыі, і Беларускі дзіцячы фонд.

ЗАКАЗНІКІ

## ПРЫГАЖОСЦЬ ПАД АХОВАЙ

У Віцебскай вобласці ўзяты пад дзяржаўную апеку яшчэ дзве жамчужыны мясцовай прыроды: возера Какісіна на Лепельшчыне і мястэчка Галубіцкая Пушча на мяжы Глыбоцкага і Докшыцкага раёнаў. Рашэннем аблвыканкома гэтыя два прыгожыя куткі атрымалі статус заказнікаў.

Возера Какісіна, як адзначаюць гідролагі і біёлагі, адзінае на Віцебшчыне, у якім выключна чыстая і празрыстая вада. А Галубіцкая Пушча вядомая як адно з нямногіх месцаў, дзе гняздуюцца скапа, чорны каршун, беркут, водзяцца барсукі і мядзведзі.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Міністр народнай адукацыі Польшчы А. Стэльмахоўскі і міністр адукацыі Беларусі В. Гайсёнак падпісалі ў Варшаве пагадненне аб супрацоўніцтве, якое датычыцца вышэйшай, сярэдняй і пачатковай школы, прадугледжвае ўзаемную падрыхтоўку педагагічных кадраў.

● Паводле паведамлення службы «Грамадская думка», 27,2 працэнта апытаных поўнасцю, 18— у значнай ступені і 18,1 — часткова падзяляюць нядаўнюю Заяву Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў РБ аб негатыўным стаўленні да правядзення рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета, адстаўцы ўрада і датэрміновых выбарах у парламент рэспублікі.

● Навукова-практычная канферэнцыя «Каштоўнасці хрысціянскай маралі» прайшла ў Мінску. Арганізатары яе — група амерыканскіх выкладчыкаў, якія на працягу чатырох дзён чыталі лекцыі і вялі семінары, прэзентавалі кожнаму ўдзельніку камплекты метадычнай літаратуры, а таксама відэакасету з вядомым фільмам «Ісус...» на беларускай мове.

● Сярэдняя цана пуцёвак у санаторыі і дамы адпачынку, размешчаныя ў межах Беларусі,— 3 300 рублёў. Жыхары рэспублікі плацяць за пуцёўку толькі 10 працэнтаў яе кошту, астатняе выкладвае са сваёй касы прафсаюз. Што датычыцца адпачынку на курортах Крыма, Прыбалтыкі, Расіі, то траціць туды можна, толькі заплаціўшы 5—6 і болей тысяч рублёў.

● У парламенце Рэспублікі Беларусь утворана дэпутацкае аб'яднанне «Беларусь», у якое ўвайшлі 79 народных абраннікаў. Яно заклікае да кансалідацыі людзей рознай палітычнай арыентацыі. Першачарговай задачай «Беларусь» лічыць падтрымку Заявы Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі, дзе выказана адмоўнае стаўленне да рэферэндуму, якога патрабуе апазіцыя.

● Канадзец Джон Кейзер, уладальнік аптэчнага магазіна з Антарыо, у сям'і якога мінулым летам жылі двое дзяцей з Пінска, прыехаў у госці на Беларусь з 14-тонным грузам лекаў і медыцынскага абсталявання. Хрысціянская грамада, да якой ён належыць, прыме сёлета на аздараўленне 70 дзяцей з чарнобыльскай зоны.

● На мінскім заводзе «Электроніка» сабрана доследная партыя дзіцячых міні-піяніна «Напеў». Інструмент выконвае 16 мелодый і мае дзве актавы. Піяніна не толькі цацка, яно дасць магчымасць дзіцяці асвоіць азы музычнай граматы. Да таго ж «Напеў» — кампактны, змяшчаецца ў школьным пенале ці кішэні.

# АРКАДЗЬ СМОЛІЧ: ПАКАЗАННІ НА ДОПЫТАХ

Многие активные работники БСГромады, и я в том числе, наученные опытом своих ошибок, признали после известных колебаний советскую платформу, вполне удовлетворявшую и социальным и национальным идеалам этой части бывшей БСГромады. У меня лично перелом этот происходил при следующих обстоятельствах.

По приезду в Вильну я начал работать в Виленском Союзе Кооперативов, сначала в качестве секретаря, затем члена правления, завед. инструкторским отделом. Виленский Союз Кооперативов был одной из главных баз белорусских революционных элементов. Благодаря продовольственной помощи Ивановского Союз развил большую низовую сеть; его инструкторы (напр. бр. (неразборчиво) Орехва и др.), объезжая кооперативы, вели энергичную национально - революционную работу, увязанную нередко и с Коммунистической организацией, существование Союза в таком виде было совершенно не в интересах польских властей, и они в конце 1921 года заставили правление выйти в отставку. Новое правление под председательством Красовского также существовало недолго, так как Красовского арестовали и выслали. После этого Союз попал в руки польских буржуазных кооперативов.

Отношение ко мне польских властей в Вильне стало враждебным, особенно после моей работы в Вил. Союзе Кооперативов в конце 1921 года. Однако при помощи Тарашкевича, который тогда еще играл роль ходатая по белорусским делам перед польскими властями и вел вообще полонофильскую по внешности политику, — удалось все же залегализовать Центр. Бел. Школьную Раду под названием «Таварыства Беларускае Школы» (правление т-ва первые годы сохраняло название БЦ Школьной Рады). Первым председателем Товарищества Бел. Школы был избран я, и работал я в нем до выезда из Вильны. Защитить от разгрома созданную Тарашкевичем школьную сеть, семинарию в Борунах и др. наши позиции не удалось; организация новых белорусских школ после ликвидации Ср. Литвы почти не разрешалась. Но Товарищество организовало на провинции ряд своих отделений и кружков, где концентрировались национально - революционные силы, которые неутомимо добивались белорусской школы. Товарищество играло до последнего времени большую политическую роль.

Кроме этого я еще работал в левом профсоюзе сельскохоз. рабочих, в белорусском издательстве, в гимназии и занимался литературной работой, так как издательство Б. Клецкина предложило мне переиздать мою «Географию», и я для этой цели перерабатывал.

Отойдя от активного участия в нацдемократической политике, я все же во время своего пребывания в Вильне окончательно с нею еще не порвал, что отражалось на моих выступлениях и вообще в общественной деятельности. Но, с другой стороны, я вошел в соприкосновение с левыми элементами, до коммунистов - подпольщиков включительно и благодаря этому ближе ознакомился с тем, что делается в Советских республиках. Многое пришлось мне за это время передумать, взвесить и переоценить. И только проделав всю эту работу над собою, я отчетливо себе представил, какую ложную, недостойную социалиста линию вел я последнее время, особенно в годы оккупации, заслоняя социалистический идеал национал-демократическим и революционную борьбу с буржуазным оккупантом — политикой соглашения с ним, усиливающей его в борьбе против революции.

Прежде всего я окончательно отверг и осудил свою прежнюю ориентацию на буржуазный запад, в частности, на Польшу. Я на опыте убедился, что годы национального гнета только научили польскую буржуазию угнетать других и что с ее претензиями на белорусские земли, которые поддерживает и ППС, — слишком трудно бороться, тогда как Россия экономически в белорусской территории мало заинтересована — для ее экспансии открыты громадные просторы на востоке. Наоборот, сама Белоруссия заинтересована в экономической связи с Россией, что дает ей неисчерпаемые возможности интенсификации хозяйства и развития промышленности, тогда как в экономической связи с Польшей она может быть только земледельческой колонией.

Идея БНР, за которую мы боролись три года, оказалась нежизненной; не было никакой реальной силы, которая могла бы ее поддержать ни в Белоруссии, ни вне ее. Больше того, — я пришел тогда к убеждению, что эта идея вообще неосуществима в данную историческую эпоху. Буржуазные элементы города и деревни тесно связаны с чужим капиталом и заинтересованы скорее в разделе Белоруссии, чем в ее консолидации. Среднее крестьянство не представляет собою организованной массовой силы и в условиях капитализма осуждено на размывание, беднейшее же крестьянство и пролетариат заинтересованы в пролетарской диктатуре, уже существующей в БССР и способной наиболее совершенно обеспечить их классовые интересы. Поэтому я пришел к выводу, что БНР является только абстрактной интеллигентской схемой.

Самым важным аргументом за изменение всего направления моей деятельности было создание коммунистической партией Белорусской Советской Социалистической Республики и проведение ею в дальнейшем национальной политики, отвечающей самым смелым моим пожеланиям. Я пришел к выводу, что никакая самая благоприятная для национального движения конъюнктура в буржуазных условиях не обеспечит Белоруссии тех возможностей, которые создает пролетарское государство в силу своей интернациональной сущности. С другой стороны, меня сильно интересовало само по себе социалистическое строительство в его конкретном выражении, хотелось ближе к нему присмотреться, принять в нем участие. Я чувствовал себя глубоко виноватым перед Социалистической Белоруссией и решил сделать все возможное для искупления своей вины.

Получив согласие ЦК КПБ, я приехал (вернее, бежал) в Минск, чтобы работать не покладая рук на том участке социалистического строительства, где мои силы понадобятся компартии. Лично мне казалось, что в интересах революции необходимо уже созданные формы белорусской советской государственности наполнять белорусским национально - культурным содержанием, что усилило бы их политический эффект; для этой цели я и считал наиболее пригодной старую белорусскую интеллигенцию, в том числе и себя, так как полагал, что она это дело должна делать с особенным подъемом. Это принципиально неверное мнение, в то время бывшее почти общепризнанным,—вызвало впоследствии в моей деятельности ряд новых ошибок. Но, вначале вообще не предполагая играть какой-либо политической роли, — со временем все больше втягивался в националистическую работу в этом направлении и был уверен, что делаю большое и полезное для БССР дело.

Идейный перелом, пережитый мною в 1921—22 годах, не был единичным или случайным явлением. Я, как и мои ближайшие товарищи по БСГромаде, не были никогда принципиальными противниками диктатуры пролетариата. Но мы были захвачены национальными задачами в момент, казавшийся для нас решительным, — и отвлечены от правильного классового пути. На этот путь, однако, мы должны были рано или поздно возвратиться и возвратились, как нам это тогда казалось, я — в 1922 году, мои товарищи несколько позже, когда они основали Белорусскую Рабоче-крестьянскую Громаду — массовую партию советского направления.

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 8—11.

Публікацыю падрыхтавалі
**Аляксей КАРОЛЬ,**
**Уладзімір МІХНЮК.**

# ТАЙНАЕ СТАНОВІЦЦА ЯЎНЫМ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

на замежных мовах), зрабіць навуковую экспертызу, каб пераканацца, што абнародаванне яго не нанясе шкоды ні асобнаму чалавеку, ні народу. На жаль, архіўных работнікаў не хапае, працуем малымі сіламі, і гэта таксама стрымлівае нас.

Хацеў бы яшчэ падкрэсліць, што рассакрэчванне — не аднаразовы акт. Сістэма абмежаванняў фарміравалася гадамі і дзесяцігоддзямі, усё рабілася так, каб назад дарогі не было. Вось, напрыклад, былі ў нас дакументы гістарычных архіваў да 1917 года...

— А хто і навошта засакрэчваў дарэвалюцыйныя архівы?

— Да 1917 года былі іншыя правілы, а засакрэчвалі іх у наш час органы НКУС. Любы таталітарны рэжым засназаны на няведанні і сакрэтнасці. Немагчыма кіраваць, трымаць мільёны ў падпарадкаванні, калі няма тайны. Ну скажыце, навошта, напрыклад, рабіць сакрэт з таго, колькі ў 1951 годзе сабралі сена ў пэўным раёне? А ўсё вельмі проста. Конь у той час быў аб'ектам стратэгічнага прызначэння, і па аб'ёму нарыхтаванага сена можна было вылічыць конскае пагалоўе.

— Гэтыя «сакрэты» яшчэ можна, хоць і з цяжкасцю, зразумець, а навошта ўсё ж патрэбна было засакрэчваць дарэвалюцыйныя архівы?

— Тут у першую чаргу паўставалі пытанні, звязаныя з эмігрантамі. Памятаеце, у нашых анкетах заўсёды была графа: ці ёсць сваякі за мяжой? І калі ёсць — маглі быць і бывалі вялікія непрыемнасці. Дарэвалюцыйныя фонды адпаведным органам якраз і давалі патрэбную інфармацыю. Тыя ж фонды выкарыстоўваліся, калі гаворка ішла аб праве на спадчыну. У гэтым выпадку дзяржава мела свой фінансавы інтарэс. Пабуджальныя матывы да засакрэчвання былі розныя і перапляталіся так цесна, што рухаючую пружынку часам было цяжка і заўважыць.

— Адным словам, усё, што рабілася, рабілася не ў інтарэсах людзей, а ў інтарэсах рэжыму.

— І гэта самае прыкрае. Праблемы вырашаліся ў інтарэсах сістэмы, якая тым самым сама сябе падтрымлівала. Быццам бы зараз мы дажылі да часоў, калі ў цэнтры ўсяго стане чалавек.

— Але і тады абвяшчалася, што ўсё робіцца ў імя чалавека...

— Аднак на справе складвалася ўсё так, што рознымі дабротамі і свабодамі карысталася толькі вельмі вузкае кола людзей. Магчыма, што ў наш час застануцца тыя ж супярэчнасці, зменіцца толькі група людзей, якая па-ранейшаму будзе ў прывілеяваным становішчы. Мяняюцца арыенціры, а жыццё яшчэ больш заблытваецца.

— Аляксандр Мікалаевіч, ці ёсць нейкая паслядоўнасць у рассакрэчванні дакументаў, прыярытэтнасць? Што не падлягае раскрыццю?

— Першая і галоўная ўмова — гэта захаванне заканадаўства, нарматыўных актаў. Менавіта закон вызначае ступень сакрэтнасці таго ці іншага дакумента. Тайны ж былі, ёсць і будуць, пакуль ёсць дзяржава, пакуль ёсць розныя дзяржаўныя структуры. Ёсць тайны, ад якіх залежыць жыццё мільёнаў людзей, а ёсць тай-

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**Адзін наш знаёмы расказаў амаль што анекдатычны выпадак. Давялося яму год назад спраўляць вяселле сына ў мінскім кафэ-рэстаране «Вільнюс». Перад прыходам гасцей гаспадар вырашыў яшчэ раз агледзець святочныя сталы. І звярнуў увагу не на меню ці сервіроўку, а на прыборы: розных памераў бакалы і кілішкі, талеркі таксама «рознакаліберныя» і розных размалёвак, нават дзенідзе вышчарбленыя.**

**На патрабаванне бацькі маладога памяняць прыборы, афіцыянтка адказала: няма на што мяняць. Талеркі, відэльцы, кілішкі — дэфіцыт. А ў час застолля тая ж афіцыянтка надакучліва хадзіла паміж сталамі, ні на хвіліну не спускаючы вачэй з гасцей, якія ад гэтага адчувалі сябе няёмка: пільнавала, каб ніхто нічога з посуду не «сцібрыў». За гэта з яе, афіцыянткі, вылічаць з зарплаты. «Хутка будзеце да нас прыходзіць са сваімі відэльцам і лыжкай», — нярэдка папярэджвалі наведвальнікаў работнікі нашага грамадскага харчавання. Мы ўсе лічылі, што гэта жартачкі, але папярэджанні аказаліся больш чым сур'ёзнымі. Лыжак з відэльцамі становіцца ўсё менш, а нажоў дык днём з агнём не знойдзеш. Гавораць, што надта крадуць. Але ў рабочых сталовых, напрыклад, на відэльцы, лыжкі, зробленыя з таннага металу, ніхто не пакваліцца. А прыбораў таксама не хапае. Каб паспець перакусіць за абедзенны перапынак, трэба прыходзіць са сваім відэльцам ды лыжкай.**

**Ёсць яшчэ адзін варыянт: цярпліва чакаць, калі паабедае таварыш і выслабаніцца прыбор. Але тут можа здарыцца, што і на працу спознішся, пакуль дачакаешся.**

**Эпідэмія «асабістага відэльца» захліснула не толькі рабочыя сталовыя. Нядаўна наш калега журналіст зайшла ў шпіталь Міністэрства ўнутраных спраў. І ўбачыла, што хворым відэльцы і лыжкі выдавалі пад... распіску. Каментарый адказнай асобы шпіталя ізноў быў стандартным: каб не ўкралі.**

**Вядома ж, крадуць, бо дзе ты купіш тую лыжку-міску! Магазіны пустыя. Прычына лыжкава-відэльцавага дэфіцыту: фактычна ні адно прадпрыемства не жадае выпускаць сталовыя прыборы. Чаму! Усё проста: каму патрэбна капеечная прадукцыя!! Датацыі ад дзяржавы на выпуск тавараў народнага спажывання мінімальныя. Прадпрыемству нявыгадна, так нядоўга і абанкруціцца. А нам, наведвальнікам кафэ, сталовых, рэстаранаў, відаць, час шукаць старых майстроў ды запасацца драўлянымі лыжкамі. Чым чорт не жартуе, бо рашэння праблемы пакуль не бачна.**

Яўген **ТУРАЙКЕВІЧ.**
Фота **В. СТАВЕРА.**

# ВЫСТУПЛЕННЕ

## МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ П. КРАЎЧАНКІ НА ПАСЯДЖЭННІ САВЕТА МІНІСТРАЎ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ ДЗЯРЖАЎ — УДЗЕЛЬНЩ НБСЕ

**(Прага, 30 студзеня 1992 года)**

Паважаны пан Старшыня,

Паважаныя дамы і панове,

Паважаныя калегі!

Для мяне вялікі гонар выступіць тут у Празе — сталіцы дружалюбнай нам дзяржавы, адным з самых цудоўных гарадоў свету — на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў дзяржаў — удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.

У гэты ўрачысты для нашай дзяржавы час хачу яшчэ раз пацвердзіць, што ўрад Рэспублікі Беларусь заяўляе аб сваёй прыхільнасці да Хельсінкскага Заключнага акта, Парыжскай Хартыі для новай Еўропы і ўсіх іншых дакументаў Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, усіх абавязацельстваў, зафіксаваных у гэтых дакументах, пацвярджае сваю рашучасць кіравацца іх палажэннямі ў сваіх дзеяннях.

Мы вітаем місію дакладчыка, якая будзе арганізавана Старшынёй Савета міністраў Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, і выказваем нашу гатоўнасць зрабіць усё магчымае для таго, каб аблягчыць выкананне задач, што стаяць перад місіяй, і аказаць ёй неабходную дапамогу. Выказваю ўпэўненасць, што гэта місія дазволіць азнаёміць дзяржавы-ўдзельніцы з тым прагрэсам, які быў дасягнуты ў Рэспубліцы Беларусь у справе ўсебаковага выканання абавязацельстваў у межах НБСЕ, а таксама аказаць дапамогу Беларусі ў ажыццяўленні гэтай мэты. Мы зыходзім з таго, што даная місія будзе кіравацца вопытам экспертаў з дзяржаў-удзельніц, інстытутаў НБСЕ і іншых адпаведных арганізацый.

Адначасова мы выказваем гатоўнасць да таго, каб кіраўнік дзяржавы або ўрада Рэспублікі Беларусь пры першай жа магчымасці падпісаў Хельсінкскі Заключны акт і Парыжскую Хартыю для новай Еўропы.

Гэтыя асноватворныя дакументы — погляд у будучыню, які дазваляе нам з надзеяй думаць пра лёс беларускага народа ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі, набыццё ім доўгачаканай палітычнай і эканамічнай свабоды і лепшай долі. Разам з тым, вяртаючыся ў сям'ю еўрапейскіх народаў, мы не можам не азірнуцца ў мінулае, прааналізаваць трагічны па сваёй сутнасці гістарычны шлях, пройдзены беларускім народам за апошнія стагоддзі, падвесці вынікі, асэнсаваць тое, што называецца гістарычнай памяццю нацыі.

Калі паспрабаваць з усёй разнастайнасцю яе характарыстык выдзеліць галоўную, то, думаю, гэта будзе трагізм беларускага народа ў гістарычнай рэтраспекцыі. Так, трагізм і яшчэ раз трагізм. Трагізм суровага крывавага мінулага, трагізм учарашніх дзён, звязаных з першай і другой сусветнымі войнамі, і трагізм чарнобыльскай бязвыхаднай паўсядзённасці цяперашняга. Не шмат знойдзецца народаў у Еўропе, да якіх лёс быў такі ж неміласэрны, як да нас. Для майго народа за апошнія стагоддзі стан вайны стаў перманентным, да жаху прывычным і аднастайным. І справа ў тым, што не мы, а на нас нападалі, падвяргалі спусташальным набегам, агню і мячу. Нашы гісторыкі падлічылі: у раннім сярэдневякоўі спусташальны вогненны вал войнаў і набегаў абрушваўся на маю Радзіму з дзіўнай метадычнасцю раз у 10 гадоў. У гэтыя гады, ратуючы Еўропу, мы прынялі на сябе ўдар больш чым 100 татарскіх набегаў, сталі непраходным бар'ерам на шляху больш чым 100 набегаў крыжаносцаў, якія імкнуліся на Усход. Наш нацыянальны герб — гэта «Пагоня», паход наўздагон уцякаючаму захопніку, акт не агрэсіі, а адплаты. Змучаная, сцякаючая крывёю Беларусь толькі за чатыры апошнія стагоддзі страціла да 15 мільёнаў чалавек. Толькі ў гады другой сусветнай вайны з 16-мільённага насельніцтва Беларусі згарэлі ў полымі вайны, паводле апошніх падлікаў, 3,5 мільёна чалавек. Сёння, успамінаючы тых, хто аддаў сваё жыццё за свабоду Айчыны, мы з горыччу канстатуем, што беларуская нацыя, чацвёртая-пятая па колькасці насельніцтва сярод славянскіх народаў, магла б быць у канцы XX стагоддзя на ўзроўні 30-35-мільённага еўрапейскага этнасу.

Стагоддзямі нас знішчалі не толькі фізічна, нас гвалцілі духоўна. Пастаянна ўбівалася ў галаву, што няма такога народа, як беларускі, што не мае ён мовы (дарэчы, адной з самых старажытных і самабытных славянскіх моў), не мае культуры. Нашы святыні і нацыянальныя рэліквіі — ва ўсіх музеях сумежных краін, усюды, але толькі не ў нас. Наш народ — з пакалечанай гістарычнай памяццю, абабраны, пазбаўлены нацыянальнай гісторыі, якую часта прысвойвалі нашы суседзі, усё ж выстаяў і, як сведчыць сённяшняя падзея, перамог. Перамог, перасіліў сябе, сваіх непрыяцеляў, няўмольны і бязлітасны лёс, які кідаў, здавалася, нас у бездань невядомасці і дэнацыяналізацыі, страты нацыянальнага «я».

Гэта — горкая гістарычная канстатацыя таго, што было. Мы абавязаны былі сёння сказаць менавіта гэта перад памяццю нашых продкаў, сказаць не дзеля радасці помсты, а для таго, каб, уступаючы ў сям'ю еўрапейскіх народаў, падвесці рысу страшнаму, крываваму і змрочнаму мінуламу майго народа, якое ніколі не павінна паўтарыцца.

Хоць трагічная і наша сучаснасць. Нібы злы лёс праследуе Беларусь і цяпер, у канцы XX стагоддзя, уцягваючы яе ў бездань бед і выпрабаванняў, выкліканых страшнай бядой — Чарнобылем. Бачачы неразуменне многіх, мы ўжо не маем сіл прасіць аб дапамозе і падтрымцы. Мінуць гады, і Еўропа прыйдзе да ўсведамлення глыбіні трагедыі, давеДаўшыся ўсю паўнату праўды аб нашых няшчасных дзецях, аб знішчэнні генафонду нацыі. Або можа хоць цяпер наш голас будзе ўсё-такі пачуты?

Мяркую, што пасля сказанага стане зразумелым наша шчырае імкненне стаць нейтральнай дзяржавай, бяз'ядзернай зонай, вывесці з нашай нацыянальнай тэрыторыі большую частку войск з узбраеннем звычайнага тыпу. Мы не хочам, каб ваенны бот захопніка таптаў нашы землі, не хочам быць заложнікамі чужых ядзерных амбіцый, ядзерных катаклізмаў, падобных на чарнобыльскі, у мірны час. Бяз'ядзерны статус і нейтралітэт — гэта не нечы капрыз, «гульня розумаў», а горкі, але няўмольны імператыў нацыянальнай гісторыі, воля нашага народа і парламента, увасобленая ў чаканную фармулёўку аднаго з палажэнняў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, прынятай 27 ліпеня 1990 года. Сёння, карыстаючыся выпадкам, мы зноў пацвярджаем, што будзем паслядоўна і няўхільна выконваць узятыя абавязацельствы, звязаныя з вывадам тактычнай і стратэгічнай ядзернай зброі з тэрыторыі Беларусі.

З пачуццём глыбокага задавальнення хачу праінфармаваць калег, што з апярэджаннем у 5 месяцаў літаральна ў гэтыя гадзіны, да 1 лютага г.г., апошнія адзінкі тактычнай ядзернай зброі знікнуць з нашай нацыянальнай тэрыторыі.

Наш ідэал — бяз'ядзерны пояс у цэнтры Еўропы, які ўключае скандынаўскія краіны на Поўначы Еўропы, захоплівае Прыбалтыку, а таксама дзяржавы Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Наш ідэал — эканамічная і палітычная інтэграцыя ў еўрапейскае супольніцтва пры захаванні і ўмацаванні на пераходны перыяд Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Садружнасць нарадзілася на беларускай зямлі. Безумоўна, яна яшчэ будзе даказваць сваё права на рэальнасць існавання, даказваць сваю жыццяздольнасць і жыццеўстойлівасць. Перакананы, што нават калі яна з часам не вытрымае выпрабавання на трываласць, дык усё роўна сілы ўзаемнага эканамічнага прыцягнення і сілы розуму прывядуць да ўзнаўлення падобнага эканамічнага і палітычнага саюза 11-ці ці іншай колькасці дзяржаў. У бліжэйшыя 10-15 гадоў мы асуджаны быць і жыць разам (хацелася гэтага каму-небудзь ці не).

Ёсць нешта большае, чым воля і жаданне палітыкаў, чым іх дзяржаўныя амбіцыі. Гэта — жорсткая эканамічная неабходнасць, якую не адкінеш убок, як палітычную атрыбутыку знікшай імперыі.

А калі гэта так, мы прагназіруем існаванне аж да 2005 года наяўнасць і функцыяніраванне ў Еўропе дзвюх асноўных геапалітычных і эканамічных адзінак — «Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва», якое аб'яднае к 1996 году ўжо, відаць, 16 дзяржаў (у тым ліку Швецыю, Аўстрыю, Фінляндыю і Швейцарыю), і «Усходнееўрапейскага эканамічнага супольніцтва» — садружнасці, якая аб'яднае 11 (або іншую колькасць — большую ці меншую) незалежных дзяржаў.

Пасля інтэграцыі ў «Агульны рынак» краін Усходняй Еўропы пачнецца павольнае і ўзважанае збліжэнне дзвюх еўрапейскіх эканамічных структур адна з адной, якое мае шанц завяршыцца пасля 2000 года. Менавіта тады ідэя адзінага еўрапейскага дому набывае рэальныя абрысы. Менавіта тады базісны прынцып яго будаўніцтва — свабода руху ідэй, людзей, капіталаў і паслуг, апрабіраваны ў ЕЭС і Садружнасці, рэалізуецца ў поўным аб'ёме. У кантэксце гэтай мадэлі развіцця сітуацыі Беларусь і яе сталіца гатовы ўзяць на сябе функцыі «Усходняга Бруселя», быць перадатачным звяном, разам з шэрагам краін Цэнтральнай Еўропы, паміж Усходам і Захадам. Заяўляючы пра гэта, мы зыходзім з таго, што дагэтуль Беларусь была астраўком палітычнай стабільнасці і правапарадку. Спадзяёмся, што і ў будучыні нам удасца пазбегнуць вялікіх палітычных і сацыяльных калізій.

Размешчаная на скрыжаванні Еўропы, Рэспубліка Беларусь даволі востра адчувае неабходнасць радыкальных мер у галіне экалогіі. Прамаруджванне тут небяспечнае цяжкімі вынікамі для ўсіх еўрапейцаў. У гэтай сувязі Рэспубліка Беларусь напярэдадні КОСР-92 лічыць мэтазгодным неадкладную распрацоўку і прыняцце Еўрапейскай экалагічнай хартыі (па аналогіі з Энергетычнай хартыяй, прынятай па ініцыятыве пана Люберса).

Спадзяёмся, што гэта прапанова атрымае падтрымку з боку ўсіх еўрапейскіх дзяржаў, а таксама ЕЭК.

Вяртаючыся ў Еўропу палітычна і эканамічна, мы зведваем пачуццё радасці і натуральнай занепакоенасці тым, як у нас пойдуць справы. Для нашага народа ніколі не было характэрна ні пачуццё нацыянальнага самаўніжэння, ні манія ўяўнай велічы. Мы спакойны і працавіты народ, які заяўляе аб прыхільнасці да дэмакратычных ідэалаў, павазе правоў чалавека і нацыянальных меншасцей, рыначнай мадэлі гаспадарання. Мы заяўляем аб нашай гатоўнасці жыць у міры і дружбе з усімі, хто шчыра верыць у гэтыя прынцыпы. Мы адкрытыя Еўропе і свету і гатовы вучыцца многаму ў яго.

Глыбока сімвалічна, што ўваходжанне ў сям'ю еўрапейскіх народаў адбываецца тут, у Златай Празе, адным з цудоўных гарадоў Еўропы і архітэктурнай жамчужыне свету, сталіцы дружалюбнай нам дзяржавы, якая мае высокі міжнародны аўтарытэт. Прага памятная і значная ў нашай нацыянальнай гісторыі. Крыніцы нашага нацыянальнага духу і самасвядомасці звязаны з тым, што менавіта тут 6 жніўня 1517 года наш вялікі асветнік, вучоны і гуманіст Францыск Скарына надрукаваў першую кнігу на беларускай мове — «Біблію Пражскую». Канкрэтным сведчаннем нашай традыцыйнай дружбы з'яўляецца той факт, што сёння было падпісана пагадненне аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і ЧСФР.

Мы вітаем нашых партнёраў і сяброў па Садружнасці Незалежных Дзяржаў у сувязі з далучэннем да НБСЕ. Мы таксама заяўляем аб сваёй гатоўнасці правесці адно з наступных пасяджэнняў Савета міністраў замежных спраў дзяржаў — удзельніц НБСЕ ў Мінску — каардынацыйным цэнтры Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Дзякуй за ўвагу!

---

**НА БЕЛАРУСКІМ ФЕСТЫВАЛІ Ў БЕЛАСТОКУ**

# ЗАХАВАЦЬ СЯБЕ Ў ПЕСНІ

Штогод — такая ўжо склалася традыцыя — Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Рэспубліцы Польшча праводзіць фестывалі беларускай песні, якія фактычна з'яўляюцца аглядам творчых дасягненняў беларускіх калектываў мастацкай самадзейнасці не толькі Беласточчыны, але і іншых рэгіёнаў Польшчы. Вось і сёлета такі фестываль адбыўся ў лютым. Спачатку прайшлі, як бы ў нас назвалі, раённыя агляды, пераможцы якіх прыехалі 29 лютага на фестываль у Беласток. Лаўрэаты гэтага агляду прынялі ўдзел у заключным канцэрце, які адбыўся вечарам 1 сакавіка ў памяшканні гарадской філармоніі. На гэта свята былі запрошаны госці з Беларусі, а таксама прадстаўнікі польскіх улад і грамадскасці. Прыехалі міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, намеснік міністра культуры РБ Уладзімір Рылатка, вядомы наш кампазітар Ігар Лучанок, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі РБ, Беларускага фонду культуры і таварыства «Радзіма». З польскага боку прысутнічалі намеснік міністра культуры РП Міхал Ягела, віцэ-ваявода беластоцкі Усакевіч, архіепіскам беластоцкі і гданьскі Сава і іншыя.

Больш трох гадзін працягваўся канцэрт самадзейных артыстаў. Перапоўненая зала з вялікай цікавасцю сачыла за выкананнем народных і сучасных беларускіх песень. Для мяне асабіста было прыемна ўбачыць на сцэне Міколу Бушку, Сцяпана Копу, Юрку Налівайку і іншых знаёмых удзельнікаў канцэрта, якія ў розны час прайшлі стажыроўку на курсах павышэння кваліфікацыі ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці ў Мінску, арганізаваных таварыствам «Радзіма».

Усім прысутным вельмі спадабалася выканаўчае майстэрства вучаніцы з Варшавы Элі Сушко, якая з вялікім натхненнем выканала песню І. Лучанка «Жураўлі на Палессе ляцяць». Талент маладой спявачкі высока ацаніў сам кампазітар, які ўручыў ёй зборнік сваіх песень з аўтографам. Лірычнасцю і асаблівай цеплынёй вызначалася выкананне песні «Водар чаромхі» дуэтам у складзе Лідзіі Маліноўскай і Багуславы Карчэўскай. Маладосць, імклівасць і жыццялюбства паказаў харавы калектыў Бельскага Дому культуры, які выканаў песню «Ехаў Ясь на кані». Цікавым быў паказ абрадавай часткі беларускага вяселля ў выкананні хору «Красуні» з Краснага Сяла. Цёпла віталі слухачы калектыў «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў і ўзнагародзілі іх шчырымі воплескамі за выкананне жартоўнай песні самадзейнага кампазітара Міколы Ігнацюка «Баба, дзед і самаход».

Трэба адзначыць і паспяховае выступленне змешанага хору Гайнаўскага Дому культуры.

У заключэнне канцэрта сваё высокае прафесійнае майстэрства прадэманстраваў запрошаны з Мінска ансамбль народнай песні «Купалінка».

Фестываль «Беларуская песня-92» у Беластоку паказаў, што ў беларускіх асяродках у Польшчы маюцца багатыя таленты. І родная песня, якая ўсё часцей гучыць на сцэнах Дамоў культуры Беластока, Бельска, Гайнаўкі і іншых гарадоў, сведчыць аб тым, што яна стала неад'емнай часткай жыцця беларусаў у Польшчы.

**У. НАВІЦКІ.**
**намеснік старшыні праўлення таварыства «Радзіма».**

